# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1931

XVIII

№ 19

КАСТРЫЧНІК






спаборніцтвы беларускай вайсковай акругі. Выдача першага прызу лепшаму кавалерыйскаму разьдзелу.

Фото САЛАВЕЙЧЫКА



# ЬМЕСТ:





Выданьне Белар...




Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

№ 19

КАСТРЫЧНІК 1931

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 59,
ТЭЛЕФОН 17—09

Завод імя Варашылава (г. Менск) упяршыню ў СССР выпусьціў 3 складаных сьвідравальных варштаты.
Да гэтага часу яны ўвозіліся з-за мяжы. На здымку: сьвідравальны варштат заканчваецца зборкай.

Фото ПАЛІЧАНСКАГА

...Шанцавала Нічыпару гэтым вечарам на рыбу. Добра зрабіў, што ўзяў з сабою вуду, ды з гары сышоў. Абы ткнуў хлебным кручком у ваду і пачне хадзіць вуда па вадзе як жывая. Спраўляйся толькі падымаць з асьцярогаю вудзілішча: глядзі, каб стрывала вуда, пакуль скончыць плотка свой танец.

Але змрок насупіўся вожыкам і ад рэчкі вільгацьцю дыхнула. Жабкі-квактухі загаманілі ярчэй, байчэй. Слонка сьмелымі крыльлямі разрэзала надвячорак у старога над галавою. Жукі гайсалі навыперадкі адзін за другім, як нечага шукалі згубленага.. Тады зматаў Нічыпар сваю вуду.

Цяжка ўзыходзіць да Вялікага Каменя ад рэчкі: крутаватая, старчма ўзьнятая сьцежка. Ды і старасьць Нічыпарава большым стурчаком узьнята за самую сьцежку: у абход пайшоў стары, каля ўзгорку.

І ўжо ў прысады выйшаў...

У руках нёс кацялок з плоткамі. Яны трапяталіся ў вадзе, плёхаліся, як малыя дзеці.

— Та-ат-ка...—разьлеглося раптоўнае рэха па ваколіцы.

— Та-ат-ка...

Нічыпар спазнаў голас сваёй дачкі Манечкі. Гэта яна прышла з палявой работы. Дома не застала бацькі, дык голасам сваім вобыск зрабіла сярод надыходзячага вечару.

— Я тутака...—адгукнуўся стары.

А яна ведала, што ён бывае каля Каменя—туды і пайшла клікаць. Не застала старога і дрыжачы голас апанаваў.

Праз хвіліну Манечка стаяла каля бацькі з засопшыміся грудзьмі. Яна была босая, у руках трымала белую хустку. Успацеўшы быў твар—наліты заірдзеўшымі бурнэлькамі шчокі. Не магла адсапнуцца, слова не магла вымавіць. Дыхала хутка, хутка: усёроўна, як баялася, што ня хопіць у яе часу.

— Татка...—сказала Манечка ўрэшце,—а я вас шукаю...

— Навошта... Я і сам ўжо іду дахаты,—глядзеў Нічыпар на ўзьнятую імпэтную маладосьць сваёй дачкі.

— Да нас прыехаў з гораду,—сказала яна,—Такарскі Вацік.

— Які Вацік?—запытаўся Нічыпар.

— Вацікам завуць яго, а па прозьвішчу Такарскі,—адказала Манечка.

— Ну дык што... Чаго ён прыехаў?

— Ах, якія вы, татка: „Чаго прыехаў"—жыць прыехаў у наш саўгас. Яго прыслалі, каб Ляксандру памагаў. Ён у нас будзе жыць: Ляксандра яго прызначыў у нашу *тую* хату.

Узяла бацьку за руку:

— Ідзем, татка, хутчэй. Чаго-ж вы стаіце?

Нічыпар гульлівы сьмех рассыпаў на мяхівістай барадзе.

Змрок яшчэ больш насупіўся калматымі бровамі: пачаў Уваходзіць у сваю сілу. Манечка ня прыкмеціла ў змроку бацькавай радаснай усьмешкі над яе маладою наіўнасьцю.

***

Раніца расьцьвіла півоністаю кветкаю, вялікаю, ружоваю.

Ужо даўно каровы саўгасаўскія пайшлі зьбіраць канюшыну. Коні пайшлі сарціраваць на полі баронамі трактарную ральлю. Кляўко з сваім сынам, з Муравейнікаў прыйшлі — прыпушчалі дра(к)аю другое бервяно на новай сырабойні.

Меркавалася, што хараство ранішняга цьвету пратрымаецца цэлым днём. Не паказвала неба, каб зьмінтрэжыць дзень у яго пагодзе-красе.

І Ляксандра, чалавек, што трымае саўгас пад сваім вокам, рад быў: і гэтай ранішняй красе, і гэтаму яркаму стуку тапароў на зрубе, і гэтаму чалавеку—Такарскаму Вaціку — што ўчора прыехаў з гораду да яго ў памоцнікі.

Ляксандра вёў Такарскага да новага зрубу: здалёк хваліўся яго веліччу, пакоўнасьцю.

Яны толькі што былі—агледзелі саўгаскую школу.

У гэтым годзе школа шмат узяла верху. Атожылкамі далася на цэлую пядзю. А яшчэ-ж усё лета ўперадзе.

Няма каму ладзіць вечары,—глядзеў Ляксандра на маўклівы твар Такарскага,—маладыя нашы людзі пражываюць самапасам. Прыдзецца табе палутараваць нашу моладзь. Расчапалася, брат, яна. Стасюк ня ўмее над ёю сакратарыць. Паліцікі не хапае. На ўсе чатыры нагі кульгае іхняя спаняласьць пра паліцыку. Табе, брат, прыдзецца выганяць з гэтых ног усю курч.

Каля зрубу новай сырабойні Вацік Такарскі ўбачыў:

Васьмёх мужчын стукалі тапарамі—калупалі пазавую трэску. Пажаваная трэска спрытка ўцякала зьверху ад тапара: каб хаця не хапіў ён яе лішні раз сваім вострым зубам.

Яны ўвайшлі ў сярэдзіну зрубу.

Вацік Такарскі—ад самых формаў, што туга набіваюцца з прасеяным пяском, ад жалезнага малака, што льецца ў тыя формы, каб застываць густа як да яркага звону.

Калі ўвайшоў у зруб, глянуў з канца ў канец—на ўспамінку стаў іхні цэх. Такі-ж самы даўжынёю, расьцягнуты, шырынёю распасьцёрты. Толькі іхны цэх замурзаны сажаю, а сырабойня сьценамі, як белым сырам сьвеціцца. Дый няма тут, пасярэдзіне, мачыхі—печы, што глытае жалезныя нежаваныя абрэзкі, што закусвае чорным хлебам—вугольлем.

Застанавіліся на ападках-трэсках. Вацік глядзеў на цесьлярскі спрыт у рабоце.

— Гэтыя з Муравейнікаў, — казаў Ляксандра на Вацікаву пільнасьць.—Сын з бацькам... па прозьвішчу Кляўко. А гэта Жур Лаўрэн, таксама з Муравейнікаў. А гэта нашы, саўгасаўскія... Маўчыц вунь. Сын яго, Харытон, за старшыню ў сельсавеце.

Стоячы недалёка ад Лаўрэна Жура, Ляксандра наўмысьля сказаў у моцны слух:

— Таварыш дзядзька Лаўрэн ніколі не адмовіць. Абзавешся яму і калі ў яго часу ў запасе і пазычыць нам свайго часу дзянёк-два...

Жур счуў, што гутарку трымаюць пра яго і тапор свой патарчакаю ўткнуў у бервяно. Нагу перанёс з таго боку сьцяны на гэты бок ды:

— Што гэта, таварыш, да іх прыехалі на пражываньне?

Вацікa цікавасьць узяла глядзячы на гэтага чалавека твар, валасамі зарослы нараўне з яго барадою.

— Да іх...—адказаў Вацік Лаўрэну, а потым дадаў:—і да вас.

— Так, так... Канечне,—гаварыў Лаўрэн,—у іх шмат работы. Яны наймаюць, наймаюць і рады мала. Ім бы яшчэ чалавек з дзесяць...

— А чаму-ж вы тут, гуртам, вёскаю, не памагаеце свайму саўгасу?—сказаў Вацік.

Лаўрэн унурыў свой валасаты твар: вытрасаў пальцамі трэскі з пазу—гаварыў:

— Свая работа. Кожны заняты сваім, як кажуць па-нашаму, разгарненьнем. Думаеце: у нас тэж шмат работы. Але от як папросіць заведуючы Ляксандра... ну-у, раз трэба, дык і трэба... Бугайчыка пусьціць... тое-сёе: у іх-жа свой каваль... ды чалавек ён ня дрэнны: бывае жывёліна прыпрэцца да збажыны...

Ня ўцяміў Вацік апошніх слоў пра бугайчыка, але запытаць не хацеў, баяўся, каб не перапыніць Лаўрэнавай думкі. А ён скідаў трэскі і гаварыў:

— ... пуд жыта, бывае, ні ўцяць, ні ўзяць — Ляксандра і адважыць...

І падняўшы вочы на Вaціка:

— Дык вы, мусіць, тут, кажуць будзеце цэлае лета?

— Буду,—нехаця адказаў Вацік.

А каб зьмесьці гэтую сухасьць з сілаю дадаў:

— Будзем знаёмымі суседзямі.

Хацеў ісьці: Ляксандра стаяў аж у канцы зрубу.

Скрануўся з месца: глядзеў перад сабою, каб не спатыкнуцца аб трэскі.

А Лаўрэн:

— Мо' маеце газэтку?...

Мацнуў Вацік рукамі па кішэні:

— Старая,—сказаў дастаючы з кішэні.

— О тож і добра... Курыць, ведаеце, хочацца, а паперы — хоць запалі—ня трэсьне.

Вацік ішоў ад Лаўрэна і нёс у сваіх думках:

— „Кажуць" прабуду цэлае лета... Як у іх скора ведаюць? Не пасьпеў пераначаваць, як ужо...

Ішоў, а сэрца яго нібы то падтрымлівала аберучкамі цьвітучая раніца. Тады было лёгка, радасна. Але надыходзілі моманты, што як-бы выпускала раніца з сваіх аберучак яго сэрца: — тады цяжкім каменем вісела ці то сэрца само, ці то адзін на сэрцы камень.

І от гэтак яно з Вацікам каторы ўжо год: абы надыйшла радасьць, трывога крадзецца, каб яе адсунуць. Тады робіцца цяжка ўсяму целу. Вацік ведае, што гэта за трывога і ён баіцца яе.

... К вечару ўсе ваколіцы ладамі-пераладамі разьлягаліся пра новага чалавека ў Чырвоным.

У Муравейніках гаварылі:

— Калекцівы прыехаў рабіць. Горад цяперака людзей такіх рассылае на калекцівы...

— У сябе хай горад робіць калекцівы. Чаго яму да нас? Мы ня езьдзім, каб у іхніх заводах, хвабрыках рабіць калекцівы. Мы іх не чапаем.

На Малінаўках гаварылі:

— Ён прыехаў, каб нас выведаць... Каб прачуць, хто што будзе гаварыць на ўласьць. Ён прыехаў пераадзетым...

А саўгасаўскія жанкі:—Юзічыха да Дзям'яніхі—

— Відаць, панятлівы чалавек. Я зайшла да Нічыпара, дык ён еў. Сам выйшаў на кухню, сам і хлеб узяў, і адрэзаў. І лыжку ўзяў з заложніку...

Булгак з Трэцяй Малінаўкі гаварыў на Другой Малінаўцы Данілу Шчупаку:

— Кажуць, што яго прыслала ячэйка, як чалавека спраўнага на язык. Па-мойму, калі язык ходарам ходзіць—розум ляжыць у таго чалавека пад замком.



**Бакінскія промыслы**
**Малюнак М. Філіповіча**

## ТРАКТАРЫСТЫ НЁМА

Верш
Т. АЛЕСІНА

Нёма падышоў да машыны
Шырокае, ды кароткай,
Калі я ічэ па-над далінай
Дзень вісеў у зародку.

Сядло пакруціў—перaправіў
рукою—гэткай трапнаю...
Многа ўзару я папару
табою, мілы мой трактар.

І гул мато у трапетнага
З [illegible] уся ў сталёвым звоне;
ён першаю бег выведкаю
на паўкруглыя загоны...

Залажыўшы рукі за шыю,
Нёма ўдыхнуў паветра...
— Эх, ты мая ды машына,
ды пяшчаныя гектары!

Нёма трактарыст—з закалкаю:
і працавіты й сур'ёзны,
таму паабапал галкаю
чарнелі ў яго барозны.

А восень ужо пад гарою
атрасала з дрэваў лісьця;
штурхала жаданьне ў гэроя,
каб заараць больш іржышча.

Пад поудзень на шэрым [illegible]
вокам не абкінуць ральлі.
Нёма перавыканаў наметку
і не заўважыў калі—

рэха іржавае рэйкі
гушкалася па-над дзядзінцам;
гайсала па алейках,
па зялёным гасьцінцы...

А там пападала ў алешнік,
вяўшы пад сонца косамі...
Сонца алешнік да рэшткі
пераплятала палосамі.

Прыпякала ў стрэхі будынкаў!
Гразла на чорназёме...
Клікала да перапынку
трактарыстага Нёму.

Тула. Будаўніцтва гіганта мэталюргіі на Асінагорскім пляцу. На здымку: копка катлавана пад першую домну



Нарыс
Цімох Мешчаракоў

# Дзе быў уціск і зьдзекі.

У вялікім панскім садзе на яблынях і грушах распукнуліся пахучыя пучкі, пачынала расцьвітаць вішня; з поўдня навяваў цёплы вясновы вецярок, мякка дакранаючыся да верхавін дрэў.

Дом і надворныя будынкі былі безьлюдны. Вакол панавала мёртвая ціша і пуставаньне. На двары валяліся разьбітыя цэбры з паржавелымі абручамі. проста на ганку ўверх дном стаяла вядро бяз дужкі, па двары бялелі кавалкі газэт і парванай паперы.

Раніцою, калі сонца паднялася высока, у двор уехалі фурманкі, з якіх сышлі людзі. Іх было чалавек з трыццаць, апрануты яны былі стрыката, не па-тутэйшаму. У руках яны трымалі чамаданы, пашарпаныя дальняй дарогай, на якіх ярка былі відаць наклейкі мытняў і ярлык вакзальных камер заховы ручнога багажу.

Фурманкі паехалі, а людзі засталіся. Астаўшыся яны зла жылі ў пустым пакоі свае пакункі, і пайшлі на сядзібу, агляда ючы яе са ўсіх бакоў.

Гэта былі гаспадары сядзібы, батракі і рабочыя, беларусы, якія вярнуліся з Амэрыкі ў родныя мясьціны. Пан Шыбанну і сусед яго Ельск —уладар экономіі Ружанопаль—сьпехам сабраліся і паехалі ў панскую Польшчу забраўшы туды ўсю жывёлу і інвэнтар. Засталіся толькі голыя будынкі: дом, сьвіран і некалькі хлявоў.

Чырвоная армія дапамагала працоўным Беларусі выгнаць з чмяліных гнёздаў усякіх дваран і памешчыкаў. Усе, што будавалася, усё, што нажывалася на рабскай працы, потам і кроўю было зьвернута сапраўдным гаспадарам.

Яшчэ да вайны, сяляне-беларусы. заціснаныя з усіх бакоў, ад непасільных падаткаў і хамства паноў. прыставоў і стражнікаў, ехалі цэлымі групамі ў Амэрыку. Аднак, як толькі яны ўчулі, што ў родных краёх наступіла свабода, іх ахапіла імкненьне вярнуцца дамоў. І ўсё-ткі ўдалося вырвацца толькі ў 1921 г.

Прыезжыя „амэрыканцы“ разьяжджаліся па сваёй краіне. Многія яшчэ ў дарозе арганізаваліся ў комуны пад кіраўніцтвам комуністычных арганізацый, якія ўзьніклі яшчэ ў Амэрыцы. Вось такой арганізаванай групе праўных ЦВК БССР прадаставіў месца для организацыі комуны.

Гэта было слаўнае месца. Добры сад, падласак, дом—але гэта і ўсе. Была пустэча, было ўсё разьбіта і абшарпана. Ня было на што ні сесьці, ні легчы. Ня было ні лыжкі, ні міскі.

Вечарам усім захацелася есьці. Знайшлі на двары стары, шчарбаты кінуты чыгун, дбайна абмылі яго і зварылі з бульбы бульён. Пах яды дражніў здаровы апэтыт, але... ня было лыжак. Хоць рукамі боўтайся. У аднаго знайшлася прылада для галеньня. Прышлося прыстасаваць мыльніцу, з якой хлябалі па чарзе. Зразумела, што абед гэты зацягнуўся.

Комунарам адразу сталі яснымі абставіны. Трэба было пачаць працаваць, і з нічога нешта ствараць. Час—красавік месяц, сяляне з ваколічных вёсак пачынаюць сяўбу, а ў комунараў ніякіх сродкаў вытворчасці, апрача паўтара дзесятка рыдлёвак, купленых яшчэ ў Менску.

Рыдлёўка, дык рыдлёўка. Пакуль хадайнічалі перад арганізацыямі, каб дзе-небудзь дастаць коняй, усе ўзяліся за ральлю рыдлёўкамі.

Труднасьці паўставалі адны за другімі. Недаставала хлеба, недаставала падчас і бульбы. Галоднымі хадзілі за трыццаць вёрст, каб дастаць коняй. Нарэшце ў адным саўгасе адпусьцілі пару коняй, шэсьць кароў і дзесятак авечак. У коняй была

кагоста, яны ледзь падніmаліся. Калі запрэглі іх у аднаконны плуг, яны я.о не маглі нават з месца крануць. Тады комунары ўпрэгліся самі—два зьлева, два справа, і так памагалі коням цягнуць плуг.

А зямлі было многа—231 *га.* І трэба было быць асабліва трывалым, каб ня зьбегчы ад гэтых труднасьцяй. Знайшліся і такія, трэцяя частка ўсё-ткі здала позыцыі—ацуралася комуны, і з трыццаці чалавек, асталося дванаццаць тры.

Навакол бадзяліся бандыцкія шайкі, і хоць у комуне была ўсяго адна вінтоўка, але яны сюды так і не заглянулі. Хадзілі чуткі, што ў комунараў былі бомбы, кулямёты і нават гарматы.

На вёсцы камунараў абсьмейвалі ў вочы:

— Зьбяжыце і вы, ня вытрымаеце,—гаварылі ім цярэбячы рукамі бароды, кулакі.—Вы прызвычаіліся ў Амэрыцы беларучнічаць...

Але комунары ня з тых, народ заўзяты, і хоць партʼячэйка была невялі ай—усяго 8 чалавек, але кіравала яна ўмела і падтрымлівала бадзёры настрой і бальшавіцкі дух сярод беспартыйных.

Мацнела па Беларусі Савецкая ўлада, расьлі комуны, саўга ы—і гэтая комуна „Чырвоная Зьвязда", пачала забудоўвацца, прыводзіць у парадак гаспадарку, павялічваць дастаткі.

Будаваліся новыя хлявы падлячылі коняй, зьняўшы ўраджай, купілі новых. Патроху зьмяншаліся труднасьці.

Прыгаладзь і ўсё што бывае пры гэтым—засталося ззаду.

Пас ля XV зьезду ЎсеКП б)—яшчэ лепш стала. Адпусьцілі крэдыты. Яшчэ да гэтата, комунары ў 24-м годзе абжыліся трактарам Фордзонам. Гэта быў першы трактар ва ўсёй Беларусі, і сюды ў комуну прыходзілі глядзець на яго работу нават з дальніх вёсак.

У 1929 годзе ў комуну ўліліся новыя члены, сяляне з двух суседніх пасёлкаў. Раней яны працавалі на паноў Ельскага і Шыбанава; запэўніўшыся, што ў комуне можна сапраўды працаваць на сябе, я не на пана, яны прышлі у комуну са ўсім сваім скарбам.

— З гатовага палена можна вогнішча распаліць,—казалі комунары, але сялян у комуну прынялі. Такім чынам, комуна вырасла амаль у тры разы. З ростам членаў раслі і обʼек ы для працы. Павялічылася засеўная плошча, павялічылася малочная гаспадар а, пашыралася садоўніцтва.

У момант організацыі комуны было членаў 23 чал., а цяпер іх 75, ды 68 дзяцей, з які шмат ужо падлеткаў. Агульны п ыбытак вырас значна і ў 1930-м, напрыклад, годзе, дасягнуў 33.260 руб. Кароў комуна мае 83, а было іх шэсьць. На сьвіней таксама зварочваецца ўвага: у комуне ёсьць больш за сотню галоў чыстага ёркшыра.

Гэтую гісторыю нам коратка расказаў старшыня комуны Дрычыц, стары партыец. Вялікая талоўка была біткам набіта гасьцямі—чырвонаармейцамі, манэўраваўшымі тут, і комунарамі, якія прымалі гасьцей.

Сяўба, уборка, сіласаваньне—усё гэта ў комуне праводзіцца пры сустрэчных плянах комунараў, з перавыкананьнем іх. Рэалі ацыя пазыкі па заданьні ў 1.000 руб. перавыканана на 1.200 руб. Добра працуюць ячэйка Асоавіяхэму, Аўтодору і МОПРʼу.

Комунары з вялікім задавальненьнем прымалі гасьцей—чырвонаармейцаў. Дзяліліся сумеснымі плянамі, абменьваліся гутаркамі аб сваёй рабоце.

— Цяпер мы ўпэўнены, што тэхніка ў нашай Чырвонай арміі магутная—гаварылі камунары.—Баяцца звароту паноў назад ня прыходзіцца...

Вечар зацягнуўся. Чырвонаармейцы-танкісты неахвотна разыходзіліся адпачываць. На другі дзень абыйшлі ўсе пабудовы: канюшню, кароўнікі, сьвінарнікі, сыраварнікі і інш.

— Эх, толькі рабочых рук нед хват—скардзіўся таварыш Лысюк, сакр тар ячэйкі.—Вось, калі хто дэмобілізуецца,—калі ласка, сюды да нас.

Гісторыя комуны, яе посьпехі былі практычнай лябораторыяй для байцоў. У колгасы запісаліся яшчэ тры чалавекі і ў партыю два.

Комунары падарылі Чырвонай арміі добрага верхавога каня.

*Раён манэўраў.*

---

# МЛЫН

**Зьмітро Віталін**

Пракляты млын...
Ён бы вядзьмар
у гэтай белі, гэтай сіні,
калі няма й паміну хмар
і маладзік здаецца стыне...

Ён прытаіўся і прыціх,
ён сочыць нешта і варожыць...
Гэй хто там шэпча ў трысьці?
Хто цягне човен мой парожні?

Хто расьцягнуў навокал ткань?
Хто зьнік у белым пад вярбою?
Гэй-гэй, чыя там галава
ўзьнялася раптам над вадою?!

І зьнік кудысьці маладзік...
А ноч ясьнела і ясьнела...
І выплыў з рэчкі вадзянік
з непараўнальна дзіўным целам...

Наладзіў ён цудоўны баль,
страшэнны баль сабе й русалкам...
Траслася спуджана вярба
ў абоймах жудасных і палкіх.

І здэцца, сьцішылася плынь,
каб рыб латвей русалкам грызьці,
і млын...
Куды-ж падзеўся млын?!.
...— Ты ў ім храпеш і нешта трызьніш...

— Дык гэта сон...
І млын—як млын,
ракоча хвалямі турбіна...

А за вакном—такая глыб
Вады, спакою, стыні і сіні!..

І толькі сумная вярба
трасецца белымі лістамі.
Ёй, мабыць, сьніцца той-жа баль,
дзе кос і цел—ліхая замяць.

Дзе скача злосны вадзянік,
дзе пацалункаў дзікіх плойма,
дзе ўпаў у рэчку маладзік
і зьнік ў русалчыных абоймах...

... І я ўстаў на поўны рост,
Узьняўшы думы з гідкай твані
У век дынам і шасьцярон,
У край вялікі будаваньня.

Манцёр, пусьці другі матор,
ад паравой пусьці машыны!
Хай прабяжыць аж пэлых сто
сто конскіх сіл па гэтай стыні!

Хай закалоціцца спакой,
хай скалатнецца нават месяц
над гэтай ціхаю ракой
ад нашых дзіў, ад нашых песень.

Пусьці-ж, пусьці яшчэ матор,
пусьці матор на ўсе, на сто!..
Мы не дапусьцім нашы сны
трывожыць байкай старыны,

г. Мазыр, 1931 г.

# КРАІНА ПАВІННА ВЕДАЦЬ СВАІХ ГЕРОЯЎ



Зверху, зьлева направа: 1) т. Міленькі — галоўны майстар фабрыкі. Даў рад рацыяналізатарскіх прапаноў. Чл. КП(б)Б. Прэміяван паездкай у Маскву і Ленінград. 2 т. Міклашэўскі—мэханік фабр. Крупскай. Вынайшоў часальны варштат, які дае 6324 р. эканоміі. Прэміяван 500 рублямі. 3 т. Выхора—завод „Кастрычнік". Зрабіў валікі замест імпортных. Кандыдат КП б Б. Прэміяван 150 руб. 4) т. Шпаноўскі — зав. „Кастрычнік". Яго прапанова па абточцы дае 5000 р. эканоміі. Комсамолец.

5) т. Баркун. Вынайшоў аўтаматычную шпульку. Дае 10000 р. эканоміі. Прэміяван 500 руб.

6) т. Герцын. Яго вынаходзтва дае 10000 руб. эканоміі. Прэміяван 1000 руб.

# Так нарадзілася помста

Янка Шарахоўскі
эскіз

Каляруе раньне.

Бягуць па полю імклівыя хвалі, паблісквае на сонцы золатам налітае жыта.

Гнуцца каласы да самай зямлі, кладуцца на дарожны пыл, хваля коціцца праз дарогу і зьнікае ў блакітнай далі.

Па дарозе едуць двое маладых сялян, едуць і ціха размаўляюць.

— Бачыш урадзіла,—хмура гаворыць Цімох, спадлоб'я глядзіць на жыта і дадае:

— На нашым пагноі.

Глядзіць на брата Рыгор, у яго тыя-ж самыя думкі і коратка кідае:

— Няхай, не разжывуцца.

Вецер даносіць сокат жняяркі, гукі льлюцца дробненькімі цурочкамі, ды не на радасьць братом гэтыя гукі.

Бярозаўскія хутары былі знаёмы далёка навокал. Багатая, шчодрая зямля, багатыя гультлівыя гаспадары і ціхія скаргі парабкоў дзесьці ў закутку...

Добра жылі людзі, шчасьліва жылі і ніпачым ім былі людзкія сьлёзы.

І доўга-б яшчэ было гэтак, ды новая сіла прышла на палі, арганізаваў Васіль колгас, раскулачылі бярозаўцаў, а маемасьць аддалі ў колгас.

І ходзіць цяпер жняярка па бярозаўскай зямлі, падразае высокае жыта, а на хутарох жывуць колгасьнікі.

Было вялікае, шумнае гняздо і ня простыя ў ім былі птушкі, а з пары ды тых, што перад ноччу вылятаюць на здабычу. І жылі яны без тугі і клапот, адчуваючы сваю моц, весела і бяздумна пілі жыцьцёвую слодыч. Але наляцела бура-навала, раскідала гняздо, і паляцелі засмучоныя драпежнікі супроць сваёй волі ў нязвычайны і далёкі вырай. Засталося толькі двое маладых ды і тых перасялілі ў суседні раён

Не падабаецца ім у суседнім раёне, усё яшчэ думаюць вярнуць былое багацьце і пасяліцца на старым месцы.

Ужо год прайшоў, куды ня езьдзілі, але нічога ня выходзіць.

Была надзея, што разваліцца колгас.

— „Там-жа адны гультаі ды галеча. Ці-ж яны змогуць весьці гаспадарку?"

Ужо год прайшоў, трымаецца колгас, мацнее, набачыліся людзі гора і цьвёрда рашылі не здавацца. Добра вядзе гаспадарку Васіль, не нахваляцца ім колгасьнікі, вясной машыны купілі, цяпер урадзіла жыта—будзе лепш.

Едуць па дарозе бярозаўцы, паблісквае на сонцы золатам налітае жыта, коцяцца хуткія хвалі.

Нешта новае, моцнае прышло на полі, зруйнавала ўсе дзедаўскія звычаі, пазбавіла бярозаўцаў гаспадаркі і няма ім месца.

— „Як-жа жыць?"

Хацелі ўступіць у колгас бярозаўцы, прыходзілі на свой стары двор, прасілі, перад старшынёю шапкі здымалі і ўсё дарэмна.

— Нельга,—гаворыць Васіль.

Ходзяць у жняярцы бярозаўскія коні, бярозаўскія каровы даюць колгасьнікам малако, жывуць колгасьнікі ў іхных хатах, а іх ня прымаюць.

Цягне бярозаўцаў на свой стары двор, бачаць, будуюць калгасьнікі новы машынны хлеў, хочацца і ім працаваць разам з усімі і зноў перад імі: Васіль.

Зараз едуць яны ў мястэчка праз былое сваё поле, коцяцца хвалі золатам налітага жыта.

За жытам узьняўся новы машынны хлеў, бялеецца новы гонтавы дах, новае жыцьцё ўступае ў свае правы, і нярадасна ў іх на сэрцы.

Чутней становіцца сокат жняяркі. Рыгор углядаецца ў далеч і глуха гаворыць:

— Васіль.

Глядзіць і Цімох.

Усё бліжай і бліжай жняярка, растуць, павялічваюцца коні. Васіль ужо волатам стаў.

Здаецца ім цягнуцца доўгія рукі, прастор ахапілі, адсунулі поле, зьнікла дарога, бярозаўцам некуды ісьці...

— Васіль уся прычына?

Так нарадзілася помста.

# НА БАЯВЫХ ПАСТОХ

С. Ліхадзіеўскі

Фрэзэр
вырэзвае
рамы.
Ліжуць
нажы
кражы.
Зборшчыкамі,
сталярамі
нам
працаваць і жыць.
Сушыць,
прасуе фанэру
нашая
малодасьць.
Звоняць
настружана нэрвы
тысяча—
мі ладоў.

Вежы ўзводзім на сілас,
мы—
муляры.
муроў.
Водзім каманды касілак
на паплавы
ў мурог.
З прагнасьцю
ў напэўнасьць
рушаць к нам
напрасьцяк
крокам
разьмерана-пэўным
несьці
абветраны сьцяг.
Мы гэта—
мільёны,
што забуялі вакол.

Мы гэта—
шыр колёны.
зьмена
бальшавікоў.

Моц наша ў абароне
пільна трымае штых.
Стане яна гарою
перад нападам тых,

тых,
што жыцьцё праелі
за бялізной стала,
тых,
што пілюляй шрапнэлі
хочуць нас
частаваць.

Знаем,—
у іхным тыле,
не на спакой ды на мір,
строй комсамольскіх флётылій
зложвае дынаміт,
Мора няхай ці скалы
сьвет абяззубелы,
знай:
рукі нам
паціскае
амэрыканец—рабочы Свайс.

Гэтага
вам ня скеміць,
год вам няхай па сто,
з намі
ротфронтаўка Эмі
на баявых пастох.

Сіверам
апавіты
ў будаўнічых баёх.
Чырваньню акавіты
сэрца
поім
сваё.

Масянж—
на твар.
У рукі—
моц.
У шыр, братва,
разгон дамо.

Верасень 1931.



# ХАРКАЎСКІ ТРАКТАРНЫ ЗАВОД

Нарыс
М. Пасьлядовіч

У Харкаве, на вакзале, вычытваем з газэты „Камуніст“: „Учора раніцой першы трактар з маркаю ХТЗ зышоў з конвэера“.

Харкаўскі трактарны завод? Першы трактар? Дзіва. Як яшчэ мала ведаем мы пра нашы дасягненьні...

30 чалавек ударнікаў другой бальшавіцкай вясны і ўборкі ўраджаю *) аж гараць ад нецярплівасьці хутчэй выехаць на гэты хітрун-завод, які нечакана зьбянтэжыў нараджэньнем першага стальнога каня.

— Астаноўка. Новы Харкаў. Трамвай пакуль што далей ня ідзе.

Сьпяшаемся выбрацца з вагону. Аглядваемся: да заводу яшчэ з поўкілёмэтра, а мо' крыху і больш. Але ўжо і адсюль мы дзівімся з ягоных памераў. Дзівімся з вялізных даўжэзных цэхаў—шкло і бэтон, з шматлікіх шасьціпавярховых дамоў рабочага гораду за 15 толькі месяцаў узьнятых энтузыязмам рабочай клясы на пустэчы украінскага стэпу.

І ўжо адсюль чуем гул і грукат вялікага будаўніцтва. Недзе пяюць песьню стальныя пілы, грымяць бляхаю на дахах рабочыя. Блізка ля нас трушчаць цяжкімі малатамі камяньне і залатыя пырскі агня сыплюцца на сухую зямлю.

Усхваляваны літвін Папіртус, ударнік калгасу *Леніна, Аршанскага раёну*, няпрыметна лэпае пальцамі ля вачэй. Неабмежаванае зьдзіўленьне бегае па твары *Эпштэйна з Стара-Дарожскага раёну*. Зьбянтэжаны вялікім разгонам работы асьцярожна ступае па бэтоннай, гладкай як шкло дарозе *Размысловіч*.

— Сьмялей—крычыць на Размысловіча адзін з тутэйшых жыхароў, які разам з намі вылез з трамваю.—Цэмэнт мацьнейшы, і па ім хутка пойдуць лёгкаю хадою цяжкія аўтамабілі.

Гэта найноўшая істужка дарогі злучае новы Харкаў са старым. Адсюль да цэнтру украінскай сталіцы 12 кілёмэтраў.

Ідзем да канторы будаўніцтва. Спыніліся ля вялізнага будынку. І покуль кіраўнікі нашай экскурсіі стараюцца ў дырэкцыі аб прапусках, мы прагнымі вачыма бегаем ад аднаго волата цэху да другога. Яны яшчэ ня ўсе агалены ад рыштаваньняў. На ўсёй вялізарнай плошчы, якую заняў завод, кіпіць работа: бэтоншчыкі, муляры, землякопы, цесьляры, шкляры і бляхары—сотні, тысячы смуглявых рабочых—старых—з барадамі і маладых—з задорлівым бляскам вачэй—стараюцца, каб хутчэй поўным ходам пайшоў завод, каб пяцьдзесят тысяч трактараў штогод даваў саўгасам і калгасам шаснаццацітысячны калектыў.

— Пяцьдзесят тысяч трактароў? За год?—недаверліва перапытвае Эпштэйн у рабочага, які сказаў нам гэтую навіну.

— Так, так. Пяцьдзесят тысяч. Ужо сёлета да пачатку новага году трэба выпушчаць ня менш, як па 125 трактараў за дзень. Учора выпусьцілі першы спробны трактар „Інтэрнацыянал“. Цяпер разгортваецца змаганьне за неадкладны масавы выраб машын. Гэты завод яшчэ больш магутны, як Сталінградзкі трактарны, той вырабляе толькі па 40 тысяч „інтэраў“ за год.

У яго вачну вялікая радасьць, калі кажа пра гэтае. Здаецца вось ён кіне ганарлівыя словы, што сталінградзкамм трактарнаму далёка да іх волату. Але, не. Чуеце: ён толькі пытае, ці няма каго з Гомелю, бо сам ён гомельчанін і ўжо два гады, як ня быў у БССР, ня было часу зьезьдзіць...

Пасьля, калі мы вандравалі па цэхах, між гор скрынак з абсталяваньнем—нас пыталі: „ці не з Ура у мы? Можа хто з Новасібірска? Ці няма таварышоў з Карэліі?“

...Гмахі гэтых волатаў-цэхаў аднаго з „518“, новы, сацыялістычны горад—цэмантаваліся энтузыязмам вольнае працы рабочых і працоўных сялян усёй краіны Саветаў.

Але чаго так няёмка хавае свае вочы таварыш Эпштэйн? Чаму клопатныя маршчыны цьмяняць твар высокага Папіртуса?

Ужо падыходзіць да нас з прапускамі. Сакратар парт'ячэйкі ліцэйнага цэху, сярэдняга росту яшчэ малады рабочы ў касьцюме юнгштурму вызваўся быць нашым груп водам.

Ліцэйны цэх... У даўжэзным падязным тунэлі высока-высока над нашымі галавамі грукочуць малаткамі. Там рабочыя сьпешна заканчваюць пракладку рэек для пад'ёмнага крану. Унізе таксама рэйкі—для ўваходу сюды, унутр цэху, нагружанага цягніка. Ён увесь тут зьмесьціцца. Ён падвязе сюды фармовачны пясок, падвязе чыгун і сталь, каб пасьля пакорліва падставіць прасторную сьпіну платформаў пад сотні новенькіх „Інтэрнацыяналаў“ і паімчаць іх на сацыялістычныя палі.

Сотні новенькіх замежных варштатаў. Сотні новых рабочых прышлі сюды з калгасаў вывучаць ад кіраўніцтвам вопытных старых рабочых тэхніку вырабу стальных коняй. Гэта было месяц, два таму назад. Сёньня яны ўжо спраўна і спрытна напаўняюць жалезныя формы пяском, выбіваюць у ім месца для выплаўкі розных дэталяў і ёмка ставяць на паслужлівы конвэер. Адсюль ідуць вагончыкі туды, дзе адліваецца мэталь. Расплалёны ў печы, ён смагне разьліцца бурлівым морам агню, але, абняты непадатнаю зямлёю, толькі працяжна ўздыхае і стыне холадам ад непасільнай злосьці...

Тады спэцыяльнае прымудраваньне абарочвае форму з вагончыка (а хада канвэера ня спыняецца) на спэцыяльнае вялізнае сіта. Пясок праз шчыліны прасейваецца ўніз, а вылітыя

*) Паездка была арганізавана ў выніку конкурсу „Калгасьніка Беларусі“ на лепшае правядзеньне сяўбы і ўборкі ўраджаю па МТС, саўгасах і калгасах.

# МАКСІМ ЛУЖАНІН

# ЗВАРОТ ДА РОМЭН РОЛЯНА І БЭРНАРДА ШОУ

Беларусь!
Першы раз пачуеце,
Хоць вялікім шляхам ішлі,
можа гэта
крыху расчуліць вас,
Што ня чулі,
а век зжылі.

Гэта, знаеце,
на ўскраіне,
Каля самай польскай мяжы.
Негарэлае—
там паўстанак ёсьць,
Скуль кур'ерскі
да вас бяжыць.

Шмат вякоў
была спраняверана,—
Не дарма-ж у поэтаў слынь:
„Пад пятою
Расійскай імпэры
Расьцьвітае толькі палын".

Ня цьвіла.
Так жыла калюшкаю
Мову тулячы да грудзей,
Нават,
ветры яе ня гушкалі,
Ня ўзыходзіў над ёю дзень.

пасьля,
укаршэніўшы пана—
чорнасоценцаў, кулакоў—
абазвалася Асінстанамі.
Звонкай
музыкай
гарадоў.

І рукою, усё тэю-ж самаю,
што трымае
клянец і рычаг,
разьвінула
свой ясны ранак яна,
Падужэўшы
у грудзях, у плячах.

У палёх—
ураджайнымі звонамі,
Чорным золатам
з грузкіх балот,
Наліванаю медзьдзю антонавак—
Свой зьбірае яна ўмалот.

Што ня слухалі—
намагніцілі,
Каб вышэй яе ўздымаць—
Мэталісты
напружанага Віцебску,
Поруч—
Добруш
і Гомельмаш.

Окупацый забіўшы шчыліны,
Узяліся яшчэ жвавей
Нават, шоўк
мы рабіць навучыліся,
А ў анучах хадзілі век.

Так...
былі, праўда, аскабалкі.
Каб цяжэй нам—
на шлях пясок.
Дзе-ж вы бачылі,
каб бяз палкі
Шлях праехала калясо?!

Тут такое пашло ўпорай,
перш дык ціхенька:
„Ква-ды-ква...
Мы ізноў пад маскоўскім ботам,
Што такое для нас Масква".

А пасьля —паказалі зубы.
Давялося іх—
па вусах,
Нам дык есьці
патрэбны зубы,
Ім патрэбны былі—
кусаць.

Бо пад тэй
незалежнай пагудкаю
Паказаўся
вясёлы твар:
Перш паваксіць
халяўку Пілсудзкаму,
а пасьля яе
цалаваць.

Разумееце,
ім хацелася,
атрымаўшы замежны дыплём,
Каб гарэла
ізноў Негарэлае,
Каб сухое
балотам было.

Але мы
здабылі месца,
Каб ніколі не аддаваць.



МАКСІМ ЛУЖАНІН

Роўна
дужай крывёю б'ецца
Сэрца сьвету ўсяго—
Масква.
Мы спаветрым замахі навалы,
Пад чырвоным штандарам
Крэмля.
Там-жа
Леніна сэрца палала,
Там-жа—
Сталіна воля расла.

Сонца!
Словы мае гарачэй кінь
У гэты волатаўскі разьбег,
Сакратар
беларускай ячэйкі—
Просты провад
ЦК УсеКП.

Гэта знаеце, пэўна, самі,
Дарагія нашы сябры.
Я-ж—сьпяшаюся за часамі
Замарудзіў
пра колёрыт.

Можна сплесьці якую небыль
Пра асеньні смутак палян,
Сьмешнавата
цяпер пра неба,
Цікаўней мая рэч—зямля.
Заўжды ветласьці сэрцу трэба.
Прыяжджайце!
Будзеце—госьці!
Малака ў нас хапае,
хлеба—
І з прыгоршчы поэтаў ёсьць.

## ЛІТАРАТУРНЫ СІЛУЭТ

# МАКСІМ ЛУЖАНІН

*ГУМАРЭСКА*

У 1925 годзе ў Менску на літаратурнай старонцы „Савецкай Беларусі" нарадзіўся паэта Максім Лужанін.

Да 1925 года Максім Лужанін быў не Максім Лужанін.

Да 1925 года замест Максіма Лужаніна жыў Алесь Каратай—добры малады хлапчук.

У 1925-ым годзе добры малады хлапчук наважыў стаць паэтам.

Раней чым стаць паэтам ціхі малады хлапчук сур'ёзна задумаўся над тым, што трэба для ціх га маладога чалавека для таго, каб стаць паэтам.

З гісторыі літаратуры Алесь Каратай ведаў, што Луцэвіч як стаў паэтай падпісваецца Янкай Купалай, Міцкевіч—Якубам Коласам, Кудзелька—Чаротам.

Задумаўшыся над гэтым фактам, Алесь Каратай рашыў, што першае, што трэба для таго, каб стаць сапраўдным паэтай—гэта грунтоўна зьмяніць сваё прозьвішча.

Пасьля гэтага неўзабаве прозьвішча Каратай было зьменена на Лужанін.

З імем было цяжэй.

Алесь—добрае імя.

Але чым маладосьць не ахвяруе ў імя літаратуры...

Алесь стаў Максімам.

Пасьля таго, як Алесь Каратай стаў Максімам Лужаніным, галоўнае было перароблена.

Наперадзе заставаліся дробязі,—

складаньне там розных вершаў ды паэм.

Але што гэта значыць для паэта, калі імя ў яго ўжо ёсьць?

... І трэба сказаць, што з імем Максіму Лужаніну пашанцавала.

Я вунь ведаю некаторых другіх паэтаў, то яны і псэўдонімы прыдбалі і потым зноў іх на свае сапраўдныя прозьвішчы перамянілі, і потым зноў сапраўдныя прозьвішчы на псэўдонімы зьмянілі і псэўдонімы гэтыя ўжо зусім састарыліся, а няшчасныя людзі, што хаваюцца пад гэтымі псэўдонімамі,—усё яшчэ ня сталі паэтамі. Мабыць, таму, што нядобрыя псэўдонімы абралі, бо іначай дык гэты самы пэўны шлях да таго, каб стаць славутым пісьменьнікам.

Цяпер я падрабязна апішу, які з сябе Максім Лужанін.

— Вы ведаеце, таварышы—Крапіву?

Дык вось Максім Лужанін і Крапіва і ў жыцьці і ў творчасьці надзвычай падобны адзін да аднаго.

За выключэньнем хіба таго, што Крапіва высокага росту, а Максім Лужанін не,—Крапіва піша байкі, а Максім не,—але затое Максім піша вершы а Крапіва не...

... Так што адно на адно і выходзіць...

Стала вучыцца Максім Лужанін дужа ня любіў, таму ён, каб як мага хутчэй, сямёхгодку скончыў за чатыры гады.

Улетку рыхтаваўся і скакаў праз клясу.

Другія яго аднагодкі, дык яшчэ і цяпер сядзяць у сямёхгодцы.

Не сьпяшаюцца людзі...

Вучацца...

У 1924-ым годзе Максім Лужанін паступіў у белпэдтэхнікум.

Там—Паўлюк Трус, Глебка,—Андрэй Аляксандровіч—на старшыню Менскай Асацыяцыі пралетарскіх пісьменьнікаў вучыцца.

У тэхнікуме Максім Лужанін зарабіў за вершы 15 (пятнаццаць) рублёў.

Неўзабаве скінулі са стыпэндыі.

— Іш ты яго, ажуць, Рокфэлер. Залез у белпэдтэхнікум, ды яшчэ і 15 рублёў у месяц стыпэндыі вымагае...

... Яшчэ і да гэтага часу Максім Лужанін з павагаю адгукаецца аб тагачаснай адміністрацыі тэхнікума.

— Дзякаваць, кажа, ім. што зусім яшчэ ня выкінулі з тэхнікума. Сам, кажа, я чалав к сьвядомы... Разумею, што Ротшыльдам ня месца ў тэхнікуме

У 1928-м годзе Лужанін скончыў тэхнікум і падаўся ў Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я ўжо зазначыў, што Максіму Лужаніну пашчасьціла з выбарам псэўдоніму. Яго кнігі „Кастрычнікам, ліпенем, маем", „Аднагалосна" ды іншыя — эмоцыянальныя і бясспрэчна таленавітыя.

Памылкі, як'я былі ў Лужаніна, ён здолеў шчыра прызнаць і сумленна выправіць іх у сваёй далейшай творчай працы.

Вось чаму, няхай і надалей у паэты:

— „З перамогаю новых дамб
Вырастае ў песьню ямб".

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З цягам часу Лужанін адчуў смагу і да навукі, ва унівэрсытэце ўжо ня скача штогод праз клясу, як той хлапчук у сямёхгодцы, а эдаецца ўжо 3-ці год узапар вывучае нешта на 2-м курсе.

— Лепей, кажа, менш,—ды лепей.

... Так што асьвету Максіма Лужаніна можна лічыць ужо канчаткова як „недаконча́ную вышэйшую".

**Алёша.**

М. СЬЦЕЛЬМАШУК

## НА МАСТУ

Гадзіны капаюць
З гальчатай, белай вежы,
Гудзіць па вуліцы
Надрывіста аўто.
Сталёвыя гудкі
Калышуць ранак сьвежы,
Барвовы дзень
Далізывае ток.
І горад ўстаў,—
Зарой зазьзяў і рынуў,—
На працы фронт
Мільён мазольных рук.
Капэрацыйныя
Адкрыліся вітрыны,
І загрымеў
Прывычна шэры брук.
Там з цэрквы сівае
Зьбіваюць дружна купал
Тут элеватар,
Волат ўжо узрос,
Куды ні глянь
Каменьня і жвіру кучы,
Ў іх звоне гулкім
Чуецца наш рост.
І толькі год,
І Воршы не пазнаць мне,
О, колькі новага
Цалуюць вочы зноў.
Там рэйкі звонкія
Ў разьбегу палынеюць,
Тут жоўты мост
Падпяразаў Дняпро.
Стаю, гляджу
Як хвалі лагараюць
І як штурмуюць
Пенай берагі.
О, Беларусь!
Мая ты дарагая,
Ты ў СССР
Складаеш працы гімн.

Узводзіш ты
Фабрычных труб колёны,
Красуеш ты
Загарам новых сьцен.
Эўропа старая
Блукае ў змроку чорным.
Ня зьнішчыць нас,—
Мы кожны дзень расьцем,
Расьцем!
І рост наш ў пераможных
тэмпах.
Працоўных рук
Зьвініць жалезны сеў
Пад кіраўніцтвам
Ленінскай, вялікай
Сталёвай волі ЎсеКП.
Гадзіны капаюць
З гальчатай, белай вежы,
Гудзіць па вуліцы
Надрывіста аўто,
Сталёвыя гудкі
Калышуць ранак сьвежы,
Барвовы дзень далізывае
ток.

г. Ворша
12-IX 1931 г.

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ

Фото САЛАВЕЙЧЫКА



Брыгада Дворкіна, якая дала сусьветны рэкорд па кладцы цэглы.



Дэмонстрацыя менскіх фізкультурнікаў супроць забароны спартакіяды ў Нямеччыне.



Брыгада Дворкіна за работай.





Раздача прызоў на спаборніцтвах Беларускай вайсковай акругі.

# ШАХМАТЫ № 7

Пад рэдакцыяй А. А. КАСЬПЕРСКАГА і Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА.

## Міжнародны конкурс „Чырвонай Беларусі“

### КОНКУРСНЫЯ ЗАДАЧЫ

Дэвіз № 13 „Індустрыя“



**Белыя:** Кра1, Фf2, Лс6 і е7, Сg7 і g8, Кb2 і d3 пb3... (9)

**Чорныя:** Кра3, Лh7, Се8 і g1, Кс3 і d1, пп. а6 і е4... (8)

Мат у 2 хады

Дэвіз № 14 „Жывём“



**Белыя:** Крf1, Фf6, Ла4 і е6, Сс8 і h6, Кс4, і g5, пп. е2, g2... (10)

**Чорныя:** Крg4, Фа5. Ла3 і b5, Сb1 і f4, Кb4 і b6, пп. g3, h4, h5... (11)

Мат у 2 хады

## VII Усесаюзны шахматна-шашачны зьезд

10 кастрычніка ў Маскве, у Калённай зале Дому Саюзаў, адчыняецца VII усесаюзны шахматна-шашачны зьезд.

Да VII шахзьезду па ўсіх кутках Савецкага Саюзу праведзена вялікая падрыхтоўчая праца, якая праводзілася пад лёзунгам перабудовы ўсёй шахматна-шашачнай працы тварам да вытворчасьці, павышэньня грамадзка-палітычнай і вытворчай актыўнасьці шырокіх пластоў шахматыстых і шашыстых.

Спартакіяды на прадпрыемствах, міжраённыя спаборніцтвы, краявыя рэспубліканскія адборачныя чэмпіянаты шырокай хваляй праходзілі па ўсім Савецкім Саюзе і глыбока ўсказыхнулі шахматна-шашачную грамадзкасьць. Шахзьезды на мясцох ня толькі паказалі, але і пацьвердзілі, што шахматна-шашачны рух у СССР за апошнія гады значна ўзрос і акрэп.

Праведзеныя спаборніцтвы выявілі нямала таленавітай моладзі, якая ў шмат якіх спаборніцтвах заняла першыя месцы.

VII усесаюзны шахматна-шашачны зьезд павінен ня толькі падвесьці вынікі праробленай працы, але і намеціць шляхі далейшага разьвіцьця шахматна-шашачнага руху ў суадпаведнасьці з задачамі социялістычнага будаўніцтва.

Падрыхтоўчая праца па БССР ужо скончана.

Дэлегацыя БССР на зьезьдзе будзе складзена з 26 асоб.

Для ўдзелу ва Ўсесаюзным шахматным турніры, на падставе папярэдніх спаборніцтваў, вылучаны наступныя тавары́шы: **А. Касьперскі** — пераможца менскага чэмпіонату; **Верасаў**— рабочы пабудовы Дома Друку; **Мазэль** — ЦСПСБ; **М. Сіліч**— Віцебск, акулярная ф-ка; **Падольны** — Полацк і **Сташэўскі**— Магілеў.

У спаборніцтвах на пяршынства па лініі ЎсеЦСПС выяжджае каманда менскіх харчавікоў у складзе 6 рабочых.

На дзелавую частку зьезду, якая адчыняецца 20 кастрычніка, з рашаючым голасам пасылаюцца т. т. **Мазэль**— Менск, **Гольдбэрг**—старшыня шахматна-шашачнай сэкцыі ЦСПСБ, **Кузьняцоў**—ВСФК Бел., **Камянецкі** — рабочы з-ду імя Варашылава, **Кейлес** — рабочы шорнай фабрыкі „Усход“ (Менск), **Гарадзецкі**—рабочы швэйнай фабрыкі імя Дзяржынскага (Бабруйск) і па адным дэлегату ад Гомеля і Віцебска.

2 кастрычніка адчыняецца II малы шашачны чэмпіянат СССР, у якім ад БССР будуць прымаць удзел: Гардзевіч, Ліхадзіеўскі і Ракігніцкі (Менск); Зісэрсон, Берлінкоў і Храпуновіч (Віцебск) і Красьніцкі (Магілеў).

Старшынёй беларускай дэлегацыі зацьверджан т. Мазэль.

## Усесаюзны чэмпіянат композытараў за 1930 г.

Распачаўся Ўсесаюзны чэмпіянат композытараў за 1930 г. Па разьдзелу двух-ходовак удзельнічае 25 чалавек; у гэтым разьдзеле ад БССР прымае ўдзел т. Камянецкі. Вынікі чэмпіянату будуць зьмешчаны ў апошнім нумары „Чырвонай Беларусі“ за гэты год.

## Міжнародны шахматны турнір у Паўднёва-Славіі

Турнір на курорце Блейг скончыўся бліскучай перамогай чэмпіону сьвету Алёхіна, які правёў увесь турнір без аднаго пройгрышу +$20\frac{1}{2}$ з 26, апярадзіўшы бліжэйшага конкурэнта на $5\frac{1}{2}$ ачкоў; II прыз — Багалюбаў +15, III — Німцовіч +14, IV—VII падзялілі Флёр, Каждан, Штоль і Відмар па +$13\frac{1}{2}$. Далей сьледвалі Тартаковер+13, Косьціч, Шпільман па +$12\frac{1}{2}$ і г. д.

Як паведамляе буржуазны друк, Алёхін быў у лепшай форме, у той час, як яго праціўнікі былі ня ва ўдары. Аб гэтым сьведчыць усё цячэньне турніру. Лепшым сьведкай наступная партыя паміж ім і адным з галоўнейшых прэтэндэнтаў на пяршынства сьвету.

Белыя: А. Алехін—Чорныя: А Німцовіч.

1. е1—е4, е7—е6; 2. d2—d4, d7—d5; 3. Кb1—с3, Сf8—b4; 4. Кg1—е2, d5:е4; 5. а2—а3, Сd4:С3+; 6. Ке2:С3, Ф7—f5; 7. Ф2—f3!

Белыя распачынаюць падрыў цэнтру 7... е4:f3; 8. Фd1:f3! Алёхін дазваляе ўзяць яшчэ адну пешку 8... Фd8:d4? Німцовіч не задумваецца аб тэй небясьпецы, якая навісае над ім. 9. Фf3—g3!! Распачынаецца атака; пагроза белых 10. Кb5, Фе4+, 11. Се2, з двайным нападам на С7 і g7; 9... Кg8—f6; 10. Фg3:g7, Фd4 е5+; 11. Сf1-е2, Лh8—g8; 12. Фg7 h6, Лg8—g6; 13. Фh6—h7, Сс8 d7. Патрэбна-ж куды-небудзь і калі-небудзь разьвівацца! 17. Сс1—g5, Сd7—с6; 15 о о-о, Сс6:g2. Ужо можна складваць аружжа. Лh1—е1, Сg2—е4; 17. Се2—d5! Кf6:h5; 18. Лd1—d8+Кре8—f7; 19. Фh4:h5 і Німцовіч здаўся.

### Папраўка

У конкурснай задачы № 9, дэвіз „Піонэрская“ („Ч. Б.“ № 16) **Бел. ладзьдзя** b6 павінна стаяць на b5.

ЦАНА 20 КАП.

# БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА

## СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫ СЭКТАР



ТАВАРЫШЫ КОЛГАСЬНІКІ,

ЧЫТАЙЦЕ НАСТУПНЫЯ КНІЖКІ:

| | |
|---|---|
| Як організаваць працу ў ільнаводных колгасах | цана 15 кап. |
| Рабочая програма па ўборцы лёну і канапель | „ 5 „ |
| Лён і канапля. (Зборнік) | „ 20 „ |
| Меерсон.—Як правільна ўбіраць лён | „ 10 „ |
| Шатэрнік.—Культура лёну | „ 50 „ |
| Сэлекцыя і культура лёну | „ 40 „ |
| За пашырэньне плошчы і ўздым ураджайнасьці лёну і канапель. (Зборнік) | „ 10 „ |
| За правільны колгасны ўлік. (Зборнік) | „ 12 „ |
| Улік у колгасах. (Зборнік) | „ 20 „ |
| Удалаў.—Вытворчыя нарады ў колгасах | „ 15 „ |
| Парадак разьмеркаваньня даходаў | „ 2 „ |
| Галенчанка.—Разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю | „ 20 „ |
| Комсамол за аўладаньне агро-тэхнікай. (Зборнік) | „ 32 „ |
| Барацьба са шкоднікамі і хваробамі с.-г. расьлін | „ 95 „ |
| Як жывецца ў комуне. (Зборнік) | „ 17 „ |
| Герасімаў.—Аўладай тэхнікай колгаснай вытворчасьці | „ 7 „ |
| Галевіус.—За бальшавіцкую ўборку ўраджаю | „ 10 „ |
| Нісьневіч.—Організавана правядзем 2-ю бальшавіцкую ўборачную кампанію | „ 10 „ |
| Плятнер.—Зьдзельшчына ў колгасах | „ 17 „ |
| Байкоў.—Кіраўніцтва ў колгасах | „ 20 „ |
| Варкуноў.—Аб парадку скармліваньня сілосу | „ 2 „ |
| Іскроў і др.—Выканаем плян па сілосу | „ 10 „ |
| Кароткая інструкцыя па тэхніцы і сіласаваньні | „ 5 „ |
| Розэнблюм.—Організацыя сіласаваньня ў колгасах | „ 15 „ |
| Комсамол за сілос | „ 20 „ |
| У паход за сілос | „ 15 „ |
| Кукуруза на сілос | „ 10 „ |
| Як захоўваць насеньне гародніны. (Зборнік) | „ 10 „ |
| Аб адходніцтве з колгасаў. (Зборнік) | „ 10 „ |



ЧЫТАЙЦЕ НАСТУПНЫЯ КНІЖКІ:

ДУМКІ АБ ПРАЧЫТАНЫХ КНІГАХ І ВАШЫХ ПАЖАДАНЬНЯХ ШЛІЦЕ Ў БДВ—С.-Г. СЭКТАР, БЯЗ МАРАК

Менск, Савецкая, 59.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2124. 7.800 экз. Галоўлітбел № 1031.